# ЧТО БЫЛО 1000 ЛЕТ НАЗАД?

Год 999-й от Рождества Христова современники ждали с ужасом. Ведь эта цифра не что иное, как перевернутое число дьявола, или знаменитая печать Антихриста —666. Со всех церковных кафедр неслись призывы покаяться и приготовиться к грядущей встрече с Создателем, которая близка как никогда. Но сначала наступит Страшный суд. Его ждали в следующем, 1000 году. Поэтому, когда Западную Европу поразило в 999 г. неслыханно жаркое лето, многие восприняли это как недобрый знак. А когда в следующем, роковом 1000 г. засуха и жара были столь сильны, что, по словам летописцев, все реки высохли и в водоемах погибла вся рыба, всякие сомнения исчезли — наступили последние дни.

Итак, вот что происходило в 999 г, в разных странах мира. Император **Священной Римской империи** Оттон III, ставший в свое время королем германского народа в возрасте 3 лет, только что вернулся из очередного итальянского похода. У него были причины спешить в Рим: там вместо папы Григория V был назначен антипапа Иоанн XVI. Потребовалось решительное вмешательство светской власти, чтобы в 999 г. первосвященником стал Сильвестр II, первый француз на папском престоле, математик, философ и изобретатель, один из самых ученых людей своего времени.

**В Польше** Болеслав I Храбрый, правивший 30 с лишним лет, а в **Богемии и Моравии** Болеслав II, скончавшийся в 999 г., ведут успешные войны, стремясь объединить вокруг себя всех западных славян, одновременно крестя их, как это часто бывало, "огнем и мечом". Король **Венгрии** Иштван I Святой, находившийся у власти с 997 по 1038 г. и благополучно переживший страшный рубеж 1000 года, также стремился сделать христианство господствующей верой и тем еще больше привязать себя и свой народ к западному миру.

**В мусульманском мире** о грядущем конце света не знали. В Египте Аль-Хаким из династии Фатимидов, известный как Сумасшедший халиф, объявил о своей божественности. Секта друзов в Сирии до сих пор воспринимает его как земное воплощение божества и поклоняется ему.

И, наконец, — **Русь.** В Киеве тогда княжил Владимир I Великий, или Святой, или Красное Солнышко. У власти он был долго — с 980 по 1015 г. и запомнился тем, что принял крещение и сделал Русь христианским государством. Об этом не все знали, даже митрополит Лев из Болгарии в 999 г. в Киев перебираться не стал, хоть и получил древнерусское государство в качестве новой митрополии.

**Борис ДЕМИДОВ.**



Ветэраны вайны з Клімаўшчыны

## Да 55-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

Іван Лапо

### Мы памятаем...

Мы памятаем тых,
Каго няма.
Каго забрала
За сабой вайна.
Параненых, знявечаных,
Ад ран памершых.
Так і не дажыўшых
У снах сваіх адвечных.
Мы памятаем...
Шануем, услаўляем!
І помнік ледзь не кожнаму
стварaем!
І ўсё ж кагосьці забываем:
Хто дзетак у хаце гадаваў.
Зямлю араў, ураджай збіраў,
Плугом і сярпом, хто як мог.
А зараз узяў, дый занямог.
Мы памятаем...
Дбаем, паважаем!
І помнік ледзь не кожнаму
стварaем!
Жанчыну ж, Маці, нешта
забываем.
Відаць, у памяці сваёй,
Штосьці губляем.
Павязаны ж усе адной
крывёй,
І пераможным,
1945-м, маем.

**Непрыемная рэчаіснасць**

# Клопат пра пенсіянераў "па-савецку"

"Вырашыла напісаць аб несправядлівасці да пенсіянераў у нашым саўгасе "Савецкі". Пішу, а слёзы з вачэй самі коцяцца. Вясной пайшоў муж выпісаць каня, каб соткі засеяць. Ганялі дзеда два дні тудысюды, а потым дырэктар сказаў, што не дасць каня, пакуль не заплацім за мінулагоднюю пашу і за сена, бо летась мы не палолі саўгасных буракоў. Мне ўжо 75 гадоў, а мужу — 70. Усё жыццё, пакуль маглі, працавалі. А цяпер і рукі не слухаюць і ногі не ідуць. І сёлета мы не можам палоць буракі. А не аполем — не будзе сена. Значыць — збываць кароўку-карміцельку. Муж 46 гадоў трактарыстам у саўгасе працаваў, яго здымак з дошкі гонару не сыходзіў, а на старасці гадоў і каня соткі апрацаваць не заслужыў", — так пісала ў сваім лісце Ніна Ангалевіч з вёскі Гапелева Мінскага раёна.

Пісьмо было накіравана ў Мінскі райвыканкам. Здавалася, што мясцовая ўлада не дасць у крыўду пенсіянераў.

З райвыканкама ж паведамілі, што "факт валакіты з выпіскай каня меў месца", а таксама запэўнілі, што "кіраўніцтвам гаспадаркі дадзены факт прызнаны і больш паўтарацца не будзе..."

Разам з тым нас азнаёмілі з асобнымі палажэннямі загаду па саўгасу "Савецкі", якія датычаць "Зацікаўленасці насельніцтва ў продажы малака дзяржаве і дапамозе саўгасу ў апрацоўцы буракоў".

Нічога сабе, "заахвочванне"! Хто здасць не менш, як 500 кг малака, атрымае пашу бясплатна. Хто не здае малако — плаці за пашу 30 мільёнаў рублёў. Гэта ж запалохванне! А далей яшчэ страшней палохаюць: хто не аполе адведзенай "часткі" буракоў — будзе купляць сена па 30 мільёнаў рублёў за тону і салому па 15 мільёнаў.

Так што кароўку Ангалевічам і іншым нямоглым вяскоўцам, якія жывуць на тэрыторыі саўгаса "Савецкі" прыйдзецца, хутчэй за ўсё, збываць. Бо калі пашу яны яшчэ неяк "акупяць", здаўшы за бясцэнак паўтоны малака, то буракоў жа яны не аполяць, бо сілы ўжо няма. А без сена ж кароўку на зіму не кінеш. Ёй жа трэба мінімум дзве тоны сена. А дзе ж старыя возьмуць 60 мільёнаў рублёў? Пенсіі ж хапае амаль толькі на хлеб, соль, цукар, запалкі, электрычнасць ды газ.

І Мінская раённая "Вертыкаль" лічыць такое становішча ў парадку рэчаў.

Нажаль, падобнае ёсць не толькі ў Мінскім раёне. Што робіцца ў краіне? Куды мы ідзем? Улады на старых і нямоглых хочуць выехаць у Рай, паправіць эканоміку. Замест таго, каб кардынальна мяняць вытворчыя адносіны, прыводзіць іх у адпаведнасць з развіццём вытворчых сіл. Хутчэй за ўсё на гэта ўлады не здольны.

**Аддзел пісьмаў.**

# Дзедаў арсенал

У вёсцы Хацілаўшчына дзед Сяргей пасварыўся з нявесткай і тая, каб адпомсціць, пайшла ў пастарунак і "здала" дзеда, заявіўшы, што ў яго ў хляве ляжыць кулямёт і скрыня з патронамі.

Пад час вайны дзед Сяргей, тады яшчэ малады чалавек, пазбіраў зброю, якую пакідалі самаахоўцы, уцякаючы ад бальшавікоў. Прыехала па заяве міліцыя з райцэнтра:

— Ну, дзед, паказвай свой арсенал!

Дзед не стаў аднеквацца, спакойна сказаў:

— Хадзем, мальцы, пакажу!

Выймаюць міліцыянты з застрэшша карабін, пісталет, наган. кулямёт і іншую зброю — усяго аж 12 ствалоў! А яшчэ скрыні з патронамі, кулямётныя стужкі...

— Ладна, кажа старшы міліцыянт, —карабін ці вінтоўка яшчэ куды ні йшло, кабана завальць ці зайца, лісіцу ўпаляваць. Але навошта табе, дзед, кулямёт?!

Дзед, відаць, не пазбаўлены гумару, і кажа:

— Ну як, малайцы, навошта? Сілы ўжо няма, а трактара з касілкай у калгасе хрэн дапросішся. Дык во каля хлява па восені бульбоўнік скасіць!

Міліцыянты парагаталі, забралі зброю і паехалі ў Глыбокае. Дзеда браць не сталі — дужа ўжо стары. Яшчэ, крый Божа, да Глыбокага не давязеш. Я ж са смехам уяўляю дзеда Сяргея, які залягае з кулямётам за вугал хлява і косіць чэргамі бульбянне.

**Мікола САМАВІТЫ.**
**(Газета "Вольнае Глыбокае")**

## Сделайте сами для себя

# Не сыр — объеденье!

Кладу в кастрюлю творог, заливаю его молоком и ставлю на газ. Помешиваю, пока нагревается, а как закипит, через 5 минут снимаю с конфорки, процеживаю через марлю и даю хорошо стечь.

Полученную крутую массу пропускаю через мясорубку, добавляю 2 яйца, масло или маргарин, соль и соду, хорошо вымешиваю в кастрюльке и ставлю ее в другую кастрюлю с водой и — на огонь. Время от времени помешиваю и примерно через час получается сыр. Выкидываю его в миску или тарелку, и когда он остынет, легко вынимается и отлично режется. Этот сыр у меня в семье любим больше, чем магазинный.

На количество творога, полученного из 10 л молока, идет 5 яиц, 100 г масла или маргарина, 1,5 л свежего молока, 1 ст. ложка соли, 1 ч. ложка соды. Из всего этого выходит 1,5 кг сыра.

**А.КАМЕШКО, Брянская обл. пос. Пальцо.**

**Поделитесь, хозяюшки и Вы каким-либо своим опытом.**

# Хлебно-мятный квас

Дроблю полкило сухарей черного (лучше всего ржаного) хлеба, всыпаю в эмалированную кастрюлю и заливаю горячей (80°С) кипяченой водой (5,5 литра). Размешиваю минут 10-12 и ставлю настаиваться на 4-5 часов. Затем прозрачное сусло осторожно сливаю, добавляю 250 г сахара-песка и 20 гр. мяты. Размешиваю до растворения сахара, охлаждению до 25°, добавляю немного хлебных дрожжей и ставлю на брожение часов на 10. Бродящее сусло разливаю в бутылки, кладу в каждую бутылку по 2 изюминки и выдерживаю при комнатной температуре до появления пузырьков. Затем бутылки закупориваю пробками и ставлю в холодное место. Через день-два квас уже готов. Пей и утоляй жажду.

**Света КОРЯГИНА, г. Горки.**

# Наливки из земляники и клубники

Приготовленные ягоды засыпать в бутыль и добавить сахар (в 10-литровую бутыль 7 кг ягод и 2,5 кг сахара). Горлышко бутыли завязать марлей в 2 слоя и поставить в теплое место на 3-4 дня до начала брожения. Брожение может начаться и раньше, на второй день. Как только появились признаки брожения наливки, марлю снять и в горловину бутыли установить водяной замок: пробку с резиновой трубкой в ней. Пробку тщательно загерметизировать — замазкой или пластилином. Другой конец резиновой трубки опустить в воду (в пол-литровой банке, в бутылке или в любом сосуде). Бульканье в воде, т.е. выход пузырьков воздуха из бутыли через резиновую трубку, свидетельствует о том, что бутыль хорошо загерметизирована.

Теперь бутыль нужно перенести в темное теплое место, где она должна находиться до конца брожения (12-20 дней).

Воду в сосуде менять через каждые 3-4 дня.

После брожения (пузырьки уже не выделяются, бульканье прекратилось) наливку отфильтровать, разлить по бутылкам и укупорить. Хранить в прохладном месте. Пить, когда захочется.

Оставшиеся ягоды (мезгу) в бутыли залейте теплой кипяченой водой (5 л на 10-литровую бутыль). После двух дней настаивания из мезги отожмите сок и добавьте 1,3 кг сахара. Хорошо растворите его. В бутыль снова вставляйте водяной замок и ставьте снова на брожение. Дней через 20 оно закончится. Отбродивший сок фильтруйте через марлю и разлейте в бутылки, укупорив их пробками. Неплохое легкое вино получается.

**В.ДОЛГОЛЕВ, Хотимский р-н.**

## Усялякая ўсячына

# Дзіўна падобны лёс двайнікоў

У 1900 годзе італьянскі кароль Умберта I, аб'язджаючы свае ўладанні, заехаў у маленькі гарадок Монца, што пад Міланам. Якое ж было здзіўленне Умберта I і ягонай світы, калі яны ўбачылі гаспадара рэстаранчыка, у які зайшлі перакусіць: ён быў абсалютнай копіяй караля! Тут жа высветліліся і іншыя дзіўныя супадзенні. Аказваецца, двайніка таксама звалі Умберта і ён нарадзіўся ў адзін і той жа дзень з каралём — 14 сакавіка 1844 года. Больш таго, гаспадар рэстаранчыка і кароль ажаніліся ў адзін і той жа дзень на жанчынах з аднолькавымі імёнамі —Магажата — і аднолькава назвалі сваіх сыноў — Віторыя. Абодва ўдзельнічалі ў адных і тых жа бітвах, абодва атрымалі медалі за храбрасць. І, нарэшце, у адзін і той жа дзень адзін быў каранаваны, а другі адкрыў свой рэстаранчык...

На наступны дзень кароль пажадаў зноў сустрэцца са сваім двайніком, але яму паведамілі, што той загінуў з-за неасцярожнага абыходжання са зброяй.

— І ўсё ж біяграфіі нашыя не зусім падобныя... — філасофскі заўважыў кароль, — ён ужо на небе, а я...

Гэта былі апошнія словы Умберта I — у гэты момант ён быў забіты двума кулямі ў сэрца...


## Выхадныя даныя

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в. Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара 22-9-89, намесніка гал. рэд. 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N 141.**

**Падпісны індэкс — 64098.**

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 7 ліпеня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 1960 экз. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ N 1.

**Галоўны рэдактар В.А.Даўгалёў**